Унутры: ФЭСТЫН У ОРЛІ | КРЫТЫКА | GONIĄC KORMORANY

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 32 (493) | ГОД X | 8 ЖНІЎНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.

У час выбараў у сейм і рады нарадовыя ў Гайнаўцы быў высунуты пастулат у адрас ваяводскіх улад, каб разбудаваць пачатковую школу і Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй.

Ці гэта пастулат слушны і дастаткова абгрунтаваны? Напэўна так. Будынак, у якім знаходзяцца гэтыя беларускія школы, пабудаваны яшчэ ў 1934 годзе. Прызначаны быў толькі для патрэб пачатковай школы.

# ТЭРМІНОВЫЯ СПРАВЫ

У 1949 годзе асветныя ўлады пастанавілі ўтварыць Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй. Але не было тады ў Гайнаўцы адпаведнага памяшкання. Пастаноўлена, што пачатковая школа і ліцэй будуць знаходзіцца ў адным будынку. Ліцэй хутка разрастаўся, класы ставаліся цеснымі і перапоўненымі. Зроблена рамонт, так званай, гары, дзе размешчана цяпер бібліятэку, лекарскі кабінет, чытальню (малую, але сваю).

У 1960 годзе моцна павялічыўся набор новых вучняў, утворана два восьмыя ліцэйскія класы. Цяжкасці растуць. Дырэкцыя ліцэя вырашыла, што моладзь малодшых класаў будзе вучыцца на другую змену. І так, у меру развіцця гэтага ліцэя павялічваюцца цяжкасці, цесната. Нягледзячы на тое, што кіраўніцтва выкарыстала ўжо ўсе найменшыя закуткі гэтага перадваеннага будынка.

У сучасны момант тэхнічная майстэрня, біялагічны кабінет знаходзяцца разам з хімічным кабінетам. Шмат галаваломкі прычыняе фізічная майстэрня, няма куды падзецца.

Школа мае 8 лекцыйных памяшканняў, 15 класаў і 450 вучняў. Тут рахунак просты: на адно памяшканне выпадае каля 60 вучняў. Улічыўшы той факт, што большасць вучняў, 90% яе паходзіць з вёсак, штодзень даязджае на ўрокі, неабходна пабудаваць інтэрнат.

У сувязі з увядзеннем васьмігадовай праграмы ў пачатковых школах і другімі рэформамі нашага школьніцтва — цесната ў Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі асабліва вымоўная, бо трэба стварыць тут яшчэ адзін восьмы клас, новыя майстэрні і кабінеты.

Ліцэй не мае святліцы, што з'яўляецца сур'ёзнай перашкодаю ў арганізацыі належнай выхаваўчай працы і культурнаасветнай дзейнасці.

У роўнай меры істотнай справаю з'яўляецца пабудова інтэрната для ліцэя. Магчыма, варта тут спрабаваць адаптаваць будынак «пжыходні» ў Гайнаўцы, якая, мабыць, у бліжэйшыя год-два будзе пераведзена ў новае памяшканне спецыяльна пабудаванае для патрэб грамадскага лячэння. Думаю, ёсць у гэтай маёй прапанове доля рацыі, якая падказвае пэўнае выйсце з такой незайздроснай сітуацыі гайнаўскага беларускага школьніцтва. Знайсці ў Гайнаўцы так званую станцыю для вучня з вёскі — нялёгка.

Гарадскія і павятовыя ўлады ўжо не адзін раз выступалі ў адрас Куратарыі Беластоцкай школьнай акругі і Прэзідыума ВРН у Беластоку з прапановаю ўвядзення ў інвестыцыйныя планы справу разбудовы існуючай школы і справу пабудовы інтэрната для абодвух гайнаўскіх ліцэяў. Аднак жа нічога не чуваць дагэтуль наконт адносін Куратарыі і ваяводскіх улад да прапановаў разбудовы школы і пабудовы інтэрната для двух ліцэяў. Бацькі дэкларуюць свой удзел чынам у час будаўнічых работ, дапаможа ім Павятовая Гайнаўская рада нарадовая і мясцовыя фабрыкі, якія здольны выдаткаваць некаторыя сумы.

Патрэбна, каб Куратарыя больш салідна зацікавілася гэтымі гайнаўскімі справамі і, урэшце, прызнала інвестыцыйныя ліміты для разбудовы беларускай школы і пабудовы міжшкольнага інтэрната.

Ю. Козак



Беласток. Рынак Касцюшкі.

Фота: В. Рагазінскі

# БЕЛЬСКАЕ РАМЯСТВО

Пяцігодка 1961—1965 гадоў у Бельскім павеце закладала арганізаванне 130 рамесленых прадпрыемстваў. Аднак пасля карэкты план павялічыўся на 29 прадпрыемстваў тыпу будаўнянага. Між іншым арганізавана тут: ТОС у Бельску, фотаоптыку, тры вулканізатарскія майстэрні, 11 цырульняў і іншыя.

Агульны цяжар рамяства, якое абслугоўвае вёску, гэта хоп працы. Зразумела, гаспадар наогул сам прыладжвае замена часці да машын. Адпадае таксама праца звязаная з перацяганнем шынаў на калёсах «жалезнякоў». Ужо наогул канчаецца гарачка на гумовыя вазы. Вёска абяспечана імі амаль у 90 працэнтах. А такі воз можа служыць гаспадару дзесяткі лет без кавальскай направы.

Ёсць і іншая прычына, якая тармозіць рамяство. У некаторых рамяство індывідуальнае. На працягу ад 1961 да 1965 года колькасць рамесніцкіх майстэрняў узрасла на 64 і зараз у павеце налічваецца іх 460. Найбольшая колькасць гэта: кавальскія, бетанярскія, краўцоў, маляроў і іншыя.

Аднак многа майстэрняў лік відавалі, таму што некаторае рамяство, дагэтуль папулярнае, пачынае занікаць у сувязі з эканамічнымі зменамі. Не мае перспектыў рамяства кравецкае і шавецкае, таму, што прамысловасць і спулдзельчасць насычвае рынак гатовымі таварамі. Ліквідуецца калеснікоў, паколькі воз «балон» ёсць ужо ў агульным ужытку. Адчуваюцца нараканні кавалёў на недарых установах — неадпаведныя адносіны да яго. Часта яго трактуюць як «прывацяжа», «грашароба». Гэта між іншым з'яўляецца прычынай, што раснікі не школяць сваіх дзяцей у напрамку таго рамяства, якое выконваюць яны самі.

У бельскім перад усім звярнулі ўвагу на падрыхтоўку рамесленай кадры. Ад 1961 года ў павеце праведзена 8 курсаў ЗДЗ (Заклад дасканалення завадовага), у тым 4 будаўляныя курсы і 4 розныя рамяства. Перашколена 223 асобы. Звярочваецца на гэта таму вялікую ўвагу, што якасць выконваемых паслуг знаходзіцца ў цеснай залежнасці з кваліфікацыямі рамеснікаў. А трэба лічыцца і з тым, што частка старых кваліфікаваных рамеснікаў адыдзе і іх трэба будзе папаўняць. Пры арганізацыі курсаў выдатную дапамогу аказала аддзелу промыслу і гандлю ПНР кіраўнічка Бюра цэху — Ірэна Давідзюк. Незалежна ад вышэйшага, у 1965 годзе 39 рамеснікаў атрымала дыпломы майстроў. На працягу гэтага года зарэгістравана 74 вучні ў майстры розных рамесніцкіх прафесій. Гэта вельмі важная справа ў перыяд так званага «дэмаграфічнага выжу», калі школы не змогуць убраць у свае сцены збольшанай колькасці моладзі. Аднак тут справа не найлепш выглядае.

(Працяг на стар. 5)

ЖНІВО






# КРЫТЫКА

— І так, сябры і сяброўкі, выбралі мы рэдакцыйную калегію і жадаем яе рэдактару добрай і карыснай дзейнасці для агульнага дабра. Крытыка ў нашай будучай насценнай газетцы будзе, несумненна, вельмі карыснай, даўно патрэбнай і збаўленчай. У нас яшчэ такая сітуацыя, што дзе не кінь, усюды кл.н.

Так закончылася ўрачыстая нарада ўсіх, у выніку якой створана рэдакцыйную калегію для выдавання пастаяннай насценгазеты.

Рэдакцыйная калегія ахоплена энтузіязмам і запалам адразу пачала дзейнічаць.

Сцёпка ўзяўся пісаць востры артыкул аб гультаяватасці мясцовага агранома, які нічога не робіць, толькі ў гасподзе мокне.

Сцёпка ўжо канчаў пісаць свой артыкул, калі прыйшла да яго сястра Зіна. Прачытаўшы Сцёпкаў артыкул Зіна сказала:

— Размазаў ты агранома, але і ён цябе размажа, ой, размажа! Не дастанешся ты ў Механічны тэхнікум, бо там аграномаў брат дырэктарам.

Сцёпка адзеравянеў, потым хутка парваў напісаны артыкул і ўзяўся пісаць другі: аб тым, чаму няма свежых булачак.

Васька маляваў ужо карыкатуру кіраўніка ГС-у, калі ў тую хвілю паявіўся і сам кіраўнік, паглядзеў на сваю карыкатуру і заўважыў:

— Непраўдзіва ты малюеш мяне, я тоўсты, а не худы.

Васька выясніў, чаму намаляваў яго худым:

— Бо гандаль ваш худы.

Кіраўнік аб чымсьці задумаўся і сказаў:

Кінь маляваць, скажы лепей, які нумар тваёй нагі, маю венгерскія сандалі, міламу дружку і кельчыкі з вушка!

— Не разумею вас, вы прапануеце мне хабар? — спытаў Васька.

— Ай-яй, прычым тут такія словы! Рука руку мые, інакш не пражывеш на гэтым свеце.

— Але нам патрэбна для насценгазеты карыкатура, — запёрся пры сваім Васька

— Ну, і малюй сабе на здароўе, напрыклад, гумовы перапоўнены аўтобус.

Васька хацеў яшчэ штосьці сказаць, але яму надта патрэбны сандалі і ён пачаў аб іх думаць, рысуючы ўжо падказаны кіраўніком аўтобус. Як бы нехочучы...

Лёнька паставіў вялізную кропку і задаволена пачаў чытаць напісаны сатырычны вершык.

— Чаў, сатырык, — выкрыкнула на парозе прыстойная дзяўчына і, падышоўшы да Лёні, прачытала вачыма загаловак яго вершыка: «Ёлкі-палкі». Прачытаўшы ўвесь вершык, пасмутнеў яе харошы тварык і яна загаварыла спачувальным галаском:

— Ну, і разнесіш ты нашу бальніцу. Здорава напісаў, а хачу яшчэ спытаць, ці Верка ўжо дастала працу?

— Кепская справа, — уздыхнуў Лёня. — цяжка ёй знайсці працу...

— У нашай бальніцы патрабуюць працаўніцу, Верка магла б там працаваць. Я пагавару з сястрою нашага доктара, і Верка дастане працу.

Лёнька паглядзеў на свой вершык і дзяўчына ўмомант зразумела стан яго душы. Яна сказала:

— Напішы другі вершык, напрыклад, як брэшуць сабакі ў вёсцы і не даюць спаць ноччу.

Калі, нарэшце, быў выданы першы нумар насценгазеты, хтосьці заўважыў:

— Мала карысная яна, няма ў ёй крытыкі...

Наіўны гэты чалавек: аўтары насценгазеты самі пераканаліся ў карыснасці крытыкі. І яны найлепш ведаюць аб яе дабрадзейным уплыве на жыццё-быццё...

ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН



Прагрэс



— Ну хутчэй, вылазіць з ванны і вон на пашу! Цяпер я буду купацца!

### ВІЗІТ

Мама з прыгожай дачкою ўваходзіць у лекарскі кабінет.

— Раздзявайцеся, — звяртаецца лекар да дачкі.

— Гэта я хворая, — гаворыць маці

— Ах так, перапрашаю, прашу паказаць язык.



— Пасля стольких гадоў ты павінен ажаніцца са мною...

— О, не! А з кім я тады штодзённа буду дагаварвацца на вечар?..



— Я перакапана, што сённяшні дзень назаўсёды застанецца мне ў памяці.



— Вяртайся хутчэй на абед, даражэнькі. Па дарозе зайдзі ў магазін і купі што-небудзь з'есці...



— Ці месяц, акрамя гутарк на тэму Айнштайна, спадарожнікаў, аб чым-небудзь іншым не гаворыць вам?

### ПЕРАШКОДА

— Ты чуў, мая жонка здраджвае мяне з чэмпіёнам па боксу. Ужо даўжэйшы час хачу яму сказаць, што я аб гэтым думаю, але гэта немагчыма.

— Чаму?

— У яго няма тэлефона. (лів)

### НА ПЛЯЖЫ

Бацька да маладой дзяўчыны:

— Чаму ты не ідзеш купацца?

— Не магу. Молі з'елі мой купальны касцюм.

— Бедныя яны, не наеліся! (лів)

---

Настаўнік:

— Хто ведае, дзе Цэзар пацярпеў сваё першае паражэнне?

Вучань:

— На старонцы 42.

## УСЯЧЫНА



— А ног у яе, братцы, восем...

### ХУТКІ РЭФЛЕКС

Цёця да Яські, якога бацькі разводзяцца:

— Ты з кім хацеў бы застацца: з маці ці з бацькам?

— А ў каго будзе «Масквіч»? (лів)

— Што ты малюеш, сынок?

— Кошку, тата.

— А дзе ж яе хвост?

— Яшчэ ў чарніліцы.

**Песні па заяўках**

Па просьбе Бажэны Дзярманскай з Гарадка, каля Беластока, змяшчаем польскую песню:




*Dzień*
*gaśnie w szarej mgle,*
*wiatr*
*strąca krople z drzew*
*sznur*
*kormoranów w locie splątał się,*
*pożegnał ciepły dzień,*
*ostatni dzień w mazurskich stronach...*
*Zmierzch*
*z jezior żagle zdjął,*
*mgieł*
*porozpinał splot,*
*szmer*
*tataraku jeszcze dobiegł nas —*
*już wracać czas...*
*Noc*
*się przybrała w czerń,*
*to*
*smutny lata zmierzch,*
*już*
*kormorany odleciały stąd,*
*poszukać ciepłych stron,*
*powrócą z wiosną na jeziora...*
*Nikt*
*nas nie żegna tu,*
*dziś*
*tak tu pusto już.*
*Mgły*
*tylko ściga wśród sitowia wiatr —*
*już wracać czas...*

Ніва

Adres redakcji Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. ... Warunki prenumeraty: miesięcznie – 2,40 zł, kwartalnie – 7,20 zł, półrocznie – 14,40 zł, rocznie – 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe, listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje – Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bitk C-3